

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 409 Студзень 1994**
**Год выд. 43**

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## ПРЭЗЫДЭНТ КЛІНТАН У МЕНСКУ

Наведаньне Прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам Менску 15 студзеня сёлета прыцягнула ўвагу амэрыканскіх сродкаў масавай інфармацыі да Беларусі й амэрыканска-беларускіх дачыненьняў. Тэлевізійныя станцыі (камэрцыйныя й кабельныя), радыё, газэты ня толькі падалі паведамленьні, але, у выпадку газэтаў, зьмясьцілі большыя матар'ялы. Два артыкулы зьявіліся ў газэце «Нью-Ёрк Таймс» (14 і 16 студзеня) зь інфармацыяй пра Беларусь і пра спрэчкі, якія паўсталі ў сувязі з намерам амэрыканскага гасьця наведаць адразу-ж падарозе з Масквы ў Менск Курапаты, месца бальшавіцкага генацыду.

Урад Прэм'ера В. Кебіча, аднак, паставіўся катэгарычна супраць таго, каб Курапаты былі першым месцам адведзінаў Прэзыдэнтам Клінтанам на беларускай зямлі. Улады рэспублікі запатрабавалі, каб спачатку быў ускладзены вянок на Плошчы Перамогі ля помніка, што сымбалізуе ахвяры нямецкае акупацыі. Паводле неапублікаваных крыніцаў, стаяла нават пытаньне адкліканьня наагул візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Беларусь. Акт ушанаваньня сталінскіх ахвяраў у Курапатах, такім чынам, быў перастаўлены на другое месца, пасьля ўскладаньня вянка на Плошчы Перамогі.

Неўзабаве пайшлі ізноў чуткі (кружылі яны ўжо ўлетку мінулага году напярэдадні прыезду Старшыні ВС рэспублікі сп. Ст. Шушкевіча ў Вашынгтон), што амбасадар ЗША ў Беларусі сп. Дэйвід Сўорц падасца ў адстаўку. Гэтак яно неўзабаве і сталася. Ці зьвязаны гэты крок сп. Сўорца з курапацкім інцыдэнтам, цяжка сказаць. Сп. Сўорц на сваім становішчы ў Менску быў выдатным прадстаўнікам ЗША: зрабіў шмат дабра для Беларусі.

Пішучы пра візыт Прэзыдэнта Клінтана ў Менск, газэта «Нью-Ёрк Таймс» падала, што сп. Клінтан паабяцаў Беларусі дадатковых 50 мільёнаў даляраў дапамогі. Былі падпісаны таксама шэраг пагадненьняў, у тым ліку згода Амэрыкі на страхаваньне амэрыканскіх інвэстыцыяў у беларускую эканоміку.

У сваім выступленьні перад аўдыторыяй у Акадэміі Навук Беларусі Прэзыдэнт Клінтан сказаў, што Беларусь заслугоўвае на «падзяку й прызнаньне грамадзянаў па цэлым сьвеце» за тое, што яна першай з былых савецкіх рэспублік заплянавала сабе бязьядзерную будучыню.

У часе 6-гадзіннага побыту прэзыдэнта ЗША ў Менску адбылася сустрэча яго з прадстаўнікамі дэмакратычнай апазыцыі.

Пішучы пра будучыню Беларусі, газэта «НЁТ» адзначыла, што амэрыканскія ўрадаўцы зьвязваюць найбольш надзеі на правядзеньне ў рэспубліцы рэформаў са старшынём беларускага парлямэнту сп. Станіславам Шушкевічам.

У супольнай беларуска-амэрыканскай заяве, між іншага, сказана:

Старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч азнаёміў Прэзыдэнта Б. Клінтана з ходам эканамічных і дэмакратычных рэформ у Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савету адзначыў, што Беларусь застаецца прыхільнай да правядзеньня паскоранай прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і стабілізацыі эканомікі як важнейшых элемэнтаў рынкавых эканамічных рэформ у Беларусі. Старшыня Савету Міністраў В. Кебіч паведаміў Прэзыдэнту Б. Клінтану аб намаганьнях ураду па забесьпячэньню пераходу да рынкавых адносін і прынятых мерах па трансфармацыі грашова-крэдытнай, банкаўскай і іншых ключавых сфэр эканомікі. Старшыня Савету Міністраў В. Кебіч і Прэзыдэнт Б.Клінтан таксама абмяняліся поглядамі па пытаньнях двухбаковых эканамічных адносін. З мэтай садзейнічаньня Беларусі ў правядзеньні сур'ёзнай эканамічнай рэформы Прэзыдэнт Б. Клінтан паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савету С.Шушкевічу аб новым пакеце тэхнічнай дапамогі Беларусі, які будзе спрыяць фінансаваньню малой прыватызацыі, абмену спэцыялістамі і іх падрыхтоўкі, а таксама праектаў у галіне аховы здароўя, энэргетыкі і аховы навакольнага асяродзьдзя. Прэзыдэнт выказаўся ў падтрымку паскоранай эканамічнай рэформы ў Беларусі, што будзе спрыяльным для больш шырокай двухбаковай і міжнароднай дапамогі.

Адзначыў, што гандаль і інвэстыцыі зьяўлюцца найбольш цьвёрдымі гарантыямі доўгатэрміновага эканамічнага росквіту, Старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч і Прэзыдэнт Б.Клінтан зрабілі шэраг крокаў з мэтай пашырэньня рамак разьвіцьця гандлёвых сувязей. Яны падпісалі двухбаковы Дагавор аб інвэстыцыях, які будзе заахвочваць прыватныя інвэстыцыі і эканамічнае разьвіцьцё ў Беларусі. Абодва кіраўнікі выказалі агульную ўпэўненасьць у тым, што пашырэньне гандлёвых сувязей будзе

*(Працяг на 3-й ст.)*

## НАСТУП РАСЕЙСКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

**Станіслаў Шушкевіч зьняты са становішча Старшыні ВС РБ**

У драме беларускай незалежнасьці — яшчэ адзін акт, пра які шырака падаў міжнародны друк: камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савету Беларусі пазбылася 26 студзеня свайго Старшыні, Станіслава Шушкевіча, за тое, што ён ставіў перашкоды на шляху да ваеннага союзу з Расеяй і, апрача гэтага, сваёй беларускай мовай у часе паседжаньняў ВС разьюшваў вернападданьніцкія душы гадунцоў кампартыі, што не ўяўляюць сябе бяз Матушкі-Расеі. Месца Шушкевіча заняў генэрал-лейтэнант міліцыі Мячаслаў Грыб, які ўзначальваў Камісію ВС па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, абароны і барацьбы са злачыннасьцю.

Той факт, што разам з Шушкевічам зьнятыя са становішчаў Старшыня Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Эдуард Шыркоўскі (першы беларус на чале КДБ) і Міністар Нутраных Спраў Уладзімір Ягораў (пра якіх шмат хто ў Менску гаварыў як пра «добрых беларусаў»), паказвае, што наступ на беларускую дзяржаўнасьць пайшоў на галоўным адрэзку фронту.

Адкуль гэты наступ вядзецца, здагадацца ня цяжка. Паказальна, між іншага, што пытаньне зьліцьця грашовых сыстэмаў Беларусі й Расеі не разглядалася на шырэйшым форуме расейскага ўраду – яно было разьвязана за кулісамі, супраць чаго запратэставаў былы міністар Ельцынавага ўраду Ягор Гайдар. Нявідомая маскоўская рука, якая змусіла ўвайсьці ў СНД Грузію й Азэрбайджан, якая разыгрывае эканамічную і крымскую карту супраць незалежнае Ўкраіны, накідае цяпер вуздэчку і на кволую беларускую сувэрэннасьць.

Прэм'ер беларускага ўраду Вячаслаў Кебіч (якому ВС 101 голасам выказаў недавер, а 175 галасамі затрымаў на прэм'ерскай пасадзе) яшчэ ў кастрычніку летась сказаў маскоўскай «Независимой газете» (5.Х):

«Расея адчула сваю сілу, і ў першую чаргу яе адчулі расейскія кіраўнікі. Часамі гэта выліваецца ў спробу дыктываць сваю волю. ...

«Мы займаем вельмі важнае геастратэгічнае палажэньне ... і калі-б сёньня ўзьнік канфлікт паміж Расеяй і якой-небудзь дзяржавай на захадзе ад яе, у нас хіба пыталіся-б дазволу на пералёт расейскага самалёта над нашай тэрыторыяй? Ніхто ня пытаўся-б».

Вось гэтая геастратэгічная рэальнасьць, падкрэсьленая нядаўнай дэманстрацыяй расейскага нацыяналізму (Жырыноўскі), і абумаўляе цяпер тактыку маскоўскіх імпэрыялістаў у дачыненьні да Беларусі. Расейскія геастратэгі маюць сваіх саюзьнікаў у менскай Вандэі — янычараў старога ладу, якія сядзяць яшчэ ў сваіх чыноўніцкіх крэслах, у тым ліку і ў Вярхоўным Савеце рэспублікі. Апрача голай улады, яны нічога не прызнаюць, нават сваіх уласных пастановаў ня выконваюць. На адным з закрытых паседжаньняў ВС у сьнежні летась прагучэла прапанова, каб адмовіца ад дадзенага абяцаньня правесьці выбары ўвесну сёлета. Ні выбараў, ні рэформаў.

Дэмагагічна ўзьняўшы сьцяг абароны сацыяльнае справядлівасьці, вартаўнікі старога рэжыму займаюцца раскраданьнем народнага дабра. Што бяруць сабе, а што прадаюць імпэрскаму цэнтру, атрымваючы як заплату магчымасьць пабыць лішні год пры ўладзе.

## *АЦЭНКА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ СЫТУАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ*

У сьнежні летась амэрыканская дэлегацыя з трох асобаў правяла дзесяць дзён у Беларусі (у Менску і Жодзіне) з мэтай азнаямленьня зь беларускім выбарчым заканадаўствам, станам палітычных партыяў і палітычнае сьведамасьці ў рэспубліцы. У склад дэлегацыі ўваходзілі: сп-ня Лінда Эджуортс, спэцыялістка амэрыканскай выбарчай практыкі, сп. Рычард Мэсык, знаўца амэрыканскага выбарчага права, і др. Янка Запруднік, спэцыяліст у пытаньнях гісторыі й культуры Беларусі.

Дэлегацыя была пасланая ў Менск няўрадавай Міжнароднай Фундацыяй Выбарчых Сыстэм у выніку гутаркі Старшыні ВС Ст. Шушкевіча зь Дзяржаўным Сакратаром ЗША Ўорэнам Крыстафорам. У часе менскае сустрэчы са сп. Крыстафорам у кастрычніку летась сп. Шушкевіч прасіў яго дапамагчы Беларусі ў правядзеньні парлямэнцкіх выбараў. Выбары гэткія Вярхоўны Савет пастанавіў правесьці ўвесну 1994 году. Не выглядае, аднак, каб яны адбыліся ўвесну. Гэткае ўражаньне атрымалася ў амэрыканскай дэлегацыі пасьля працяглых гутарак з прадстаўнікамі беларускага ўраду, народнымі дэпутатамі, кіраўнікамі палітычных партыяў, прафсаюзаў і няўрадавых структураў. Магчыма, што выбары адбудуцца ўвосень сёлета.

Сваю ацэнку сытуацыі на Беларусі дэлегацыя дала ў рапарце BELARUS. A Pre-Election Assessment. December 11-21, 1993 (60 pp), па які трэба зьвяртацца да Resource Center, International Foundation for Electoral Systems, 1620 I Street, Suite 611. Washington, D.C. 20006. (202) 828-8507, Fax (202) 452-0804. Цана рапарту — 10 дал.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ФЭНАМЭН ЖЫРЫНОЎСКАГА

Лунацік ці запраўдная пагроза ня толькі былым савецкім рэспублікам, Усходняй Эўропе, але цэламу сьвету ўключна з Амэрыкай? Ягор Гайдар, пасьля відавочнай перамогі Жырыноўскага ў апошніх выбрах, заявіў: фашызм прыйшоў на зьмену збанкрутаванага камунізму.

Гэтая гістарычная рызыка мусіць быць узятая пад увагу. У 1933 годзе Гітлер здабыў толькі 16% галасоў і ўжо 30-га студзеня таго-ж году стаўся канцлерам. Гітлер пісаў у сваёй кнізе «Майн Кампф»: «Чым менш апэляваць да розуму, чым больш да пачуцьцяў, тым большы вынік прапаганды».

Ведамыя пагрозы Жырыноўскага Прыбалтыцы, Нямеччыне ды Японіі атамным зьнішчэньнем ствараюць вельмі напружаную атмасфэру, і можна сьмела заладозрыць, што гэты чалавек страціў поўнасьцю разумовую ды эмацыянальную раўнавагу. Ён выразна заявіў, што калі дойдзе да ўлады, дык будзе бескампрамісным дыктатарам.

Калі-б я быў расейцам, я адчуваў-бы сябе глыбака абражаным. Жырыноўскі заявіў: «Толькі страхам ды пагрозай можна палепшыць прадукцыйнасьць расейскага народу. Магчыма, ён лепш ведае псыхалёгію гэтага народу. Стагодзьдзі аўтарытарнай і таталітарнай сыстэмы — мангольскай, царскай ды найбольш жорсткай камуністычнай — вырабілі псыхалёгію людзей, здольных толькі выконваць загады пад пагрозай кары. Магчыма, расейскія нацыяналісты ня супраць такой сыстэмы, якая дала ім найбольш пашыраную імпэрыю, уключаючы ўсю Ўсходнюю Эўропу.

Аднак найбольшая небясьпека фэнамэну Жырыноўскага — для нас ды ўсіх паняволеных народаў былога Савецкага Саюзу. Ён хоча бачыць нас на каленях, каб мы прасілі ласкі ў расейцаў.

Псыхалёгія нявольнікаў праяўляецца таксама ў Беларусі, хоць, магчыма, у меншай меры. Я паважна баюся наступных выбараў у Беларусі, калі яны наагул некалі адбудуцца. Мне прыгадваецца выпадак вязьня, які адбыў пакараньне 25 гадоў турмы ды быў выпушчаны на волю. Ён зьявіўся перад брамай турмы, просячы прыняць яго назад. Ён ня ведаў, што рабіць з сабой, ён прывык выконваць загады ды мець што есьці без патрэбы клапаціцца аб тым, як арганізаваць свой дзень ды як забясьпечыць штадзённыя патрэбы жыцьця.

Я веру аднак, што беларускі народ у глыбіні сваёй душы — народ вольны, і калі прыйдзе час выбіраць паміж няволяй ды свабодай, ён выбера свабоду.

**Б. Рагуля**

### *ЗЬ БЕЛАРУСІ БЕЗ ЗАПРОСІНАЎ*

Пачынаючы зь 1-га студзеня сёлета, грамадзяніну Беларусі не патрэбныя будуць запросіны з-за мяжы, каб магчы дастаць пашпарт на замежнае падарожжа. Для атрыманьня пашпарту хопіць звычайнае заявы. Пашпарт дасьць магчымасьць наведаць якую хаця краіну. Пра гэта паведаміла вашынгтонскае пасольства Рэспублікі Беларусь у сваім прэсавым камунікаце датаваным 30 сьнежня 1993 году.

## КАНЕЦ БЕЛАРУСКАГА АДДЗЕЛУ РС У НЬЮ-ЁРКУ

У выніку рэзкага скароту бюджэту радыястанцыі «Свабода» (з 210 мільёнаў даляраў да 75 мільёнаў), ньюёркскі аддзел РС зачынены з пачаткам сёлетняга году. Ліквідуецца амаль уся тэхнічная база аддзелу. Пакінутыя толькі тры карэспандэнты расейскае рэдакцыі, адна карэспандэнтка ўкраінскае і адна эстонскае. Карэспандэнт беларускае рэдакцыі, сп. Адам Акуліч, тымчасам пасылае свае рэпартажы ў Мюнхен як вольны супрацоўнік.

Беларускія арганізацыі, у тым ліку БАЗА, Кангрэсавы Камітэт, БІНіМ, Беларуска-Амэрыканская Інфармацыйная Служба (сп. Васіль Мельяновіч), «Беларускі Агляд» (сп. Язэп Арцюх), выслалі просьбы да кіраўніцтва і да іншых уплывовых урадаўцаў, каб у Нью-Ёрку была пакінутая беларуская штатная адзінка.

У лісьце-адказе на гэтыя просьбы дырэктар РС Ўільям Марш запэўніў, што ніякага скарачэньня гадзінаў беларускіх перадачаў ня будзе, што РС будзе далей карыстацца паведамленьнямі зь Нью-Ёрку беларускіх вольных супрацоўнікаў ды што невялікіае бюро РС мае неўзабаве адчыніцца ў Менску, каб лепш каардынаваць там супрацоўніцтва з вольнымі супрацоўнікамі. Але неўзабаве па напісаньні свайго ліста сп. Марш сам падаўся ў адстаўку ў знак пратэсту супраць плянаў пераносу ўсяе радыястанцыі «Свабода» зь нямецкага Мюнхену ў чэшскую Прагу.

## «НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫЯ ДЫКТАТУРЫ СУПРАЦЬ АДКРЫТАГА ГРАМАДЗТВА»

Пад гэткім загалоўкам выйшла ў Менску, у праграме выдаваньня перакладаў заходняе літаратуры на беларускую мову, якую праводзіць Фонд Сораса–Беларусь, брашура ведамага амэрыканскага мэцэната Джорджа Сораса. Зьмест брашуры (24 стар.) — пашыраны варыянт лекцыі, прачытанай сп. Сорасам у Гарвардзкім клюбе ў Нью-Ёрку 18 лістапада 1992 году.

Цэнтральны тэзіс лекцыі Дж. Сораса – цьверджаньне, што «Падзеньне савецкай сыстэмы пагражае ператварыцца ў паражэньне свабоднага сьвету, бо нам пакуль не ўдаецца інтэграваць гэты рэгіён у свабодны сьвет. Ён парпосту дэзынтэгруецца, і тое, што калісьці было Савецкім Саюзам, можа ператварыцца ў 'чорную дзіру', якая паступова праглыне цывілізацыю».

# ВЫБАРЫ Ў ВС РБ «МАЛАВЕРАГОДНЫЯ»

Паводле даведкі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» (датаванай 20.XII.93), шансы на правядзеньне ў Беларусі парляманцкіх выбараў, абяцаных на вясну сёлета, вельмі малыя. У даведцы (падрыхтаванай В. Трыгубовіч) сказана:

«Рэчаіснасьць такая: дзеючая ў краіне замежнай, стварэньне дымавой заслоны, за якой ідзе імклівае рабаваньне народу, зьнішчэньне сувэрэнітэту, умацаваньне мафіёзных структур і да таго падобнае.

«БНФ бычыць выйсьце з гэтай сытуацыі ў вяртаньні да ідэі рэфэрэндуму, у адмене забароны на яго правядзеньне, у назначэньні Вярхоўным Саветам




*Лідэр Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянон Пазьняк выступае на сустрэчы з выбаршчыкамі ў Менску ў верасьні 1993 г. Фота Ул. Кармілкіна. Архіў БНФ.*

Канстытуцыя БССР ня мае палажэньняў пра датэрміновае спыненьне дзейнасьці Вярхоўнага Савету. Рашэньне аб самароспуску гэты Вярхоўны Савет ня прыме бяз моцнага ціску абставін або грамадзтва. Пакуль гэтага няма. Спробы прыняць Канстытуцыю на 13-й сэсіі зноў праваліліся. Няма згоды па прынцыповых пытаньнях, дэпутаты большасьці ня мысьляць катэгорыямі дзяржавы, турбуюцца толькі за ўласны агарод. Новага выбарчага закону таксама няма. Вывад з гэтага адзін: выбары вясною 1994 году надзвычай малаверагодныя. Гаворка пра іх — закалыхваньне грамадзкасьці, найперш даты яго правядзеньня. (...)

«Зыходзячы з усяго гэтага, БНФ вядзе перадвыбарчую працу, так-бы мовіць, у асьветніцкім кірунку, разьясьняе людзям свае мэты і пляны, свае праграмы, дапамагае ім разабрацца ў няпростай эканамічнай і палітычнай сытуацыі. Пры ўрадавай манаполіі на сродкі інфармацыі асноўны цяжар гэтай працы кладзецца на сустрэчы, сходы, мітынгі. Яны праводзяцца па ўсёй Беларусі. Дэпутаты апазыцыі і актывісты БНФ плянамерна наведваюць гарады і раёны. Ствараюцца адпаведныя франтаўскія структуры (суполкі, рады) там, дзе іх яшчэ няма».

## «БІЗНЭС-КАНГРЭС-94» У МЕНСКУ

25-27 траўня сёлета ў Менску адбудзецца міжнародная сустрэча прадпрымальнікаў «Бізнэс без граніц» з мэтай умацаваньня дзелавых сувязяў беларускіх прадпрымальнікаў з замежнымі бізнэсмэнамі.

Рэгістрацыйны ўзнос аднаго ўдзельніка ў сустрэчы — 120 даляраў.

Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 30 красавіка 1994 г. па адрасе: 220029 Менск, вул. Чырвоная, 2, АДС «Гарант», факс: (0172) 396-921, 274-383, 271-596. Інфармацыя па тэлефоне: 274-383 і 690-034.

## КУРС ГІСТОРЫІ І ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІ

У Нью-Ёрку ў Гарыманаўскім Інстытуце Калюмбійскага Ўнівэрсытэту др. Янка Запруднік пачаў 18 студзеня сёлета выкладаць (двойчы на тыдзень) курс для старэйшых студэнтаў «Гісторыя і палітыка Беларусі». Падручнікам для курсу паслужыць выдадзеная летась амэрыканскім выдавецтвам Ўэств'ю Прэс кніга Я. Запруднік «Беларусь на гістарычным скрыжаваньні». Фонд Сораса–Беларусь выявіў зацікаўленьне перакласьці кнігу Запрудніка на беларускую мову і выдаць яе ў Менску.

# ПРЭЗЫДЭНТ КЛІНТАН У МЕНСКУ

*(Працяг з б. 1)*

эканамічна выгадна абедзьвюм дзяржавам, а таксама паслужыць стымулам для далейшага разьвіцьця прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі. У ходзе візыту таксама было аб'яўлена аб пагадненьні, якое дазволіць Экспартна-імпартнаму банку ЗША пашырыць свае апэрацыі па фінансаваньню двухбаковага гандлю. Пагадненьне аб стымуляваньні праектаў Экспартна-імпартным банкам будзе садзейнічаць разьвіцьцю рыначнай эканомікі Беларусі, пашырэньню прыватнага сэктара яе эканомікі, а таксама заахвочваньню двухбаковага гандлю. Беларусь і Злучаныя Штаты абмяняліся таксама дыпляматычнымі нотамі, якімі ўводзіцца ў дзеяньне пагадненьне аб узаемнай дапамозе паміж іх мытнымі службамі.

Бакі пагадзіліся стварыць у Менску Амэрыканскі бізнэс-цэнтр. Цэнтр будзе садзейнічаць амэрыканскім кампаніям у вывучэньні магчымасьцей, што існуюць у Беларусі ў галіне гандлю і інвэстыцый, забясьпечваючы іх самымі неабходнымі паслугамі для спрыяньня бізнэсу, а таксама дапаможа беларускім фірмам, ствараючы магчымасьці для навучаньня ў сфэры бізнэсу і аказваючы тэхнічную дапамогу. Старшыня Вярхоўнага Савету С.Шушкевіч і Прэзыдэнт Клінтан таксама дасягнулі дамоўленасьці аб стварэньні двухбаковага Камітэту разьвіцьця бізнэсу для дапамогі ў выяўленьні і вырашэньні праблем, якія перашкаджаюць пашырэньню дзелавой актыўнасьці, і пошуку шляхоў для разьвіцьця новых магчымасьцей у сфэры бізнэсу. Акрамя таго, бакі дамовіліся заснаваць Рэгіянальны фонд прадпрымальніцтва, у які ўваходзілі-б Беларусь, Малдова і Украіна і зь якога рабіліся-б адпаведныя інвэстыцыі, пазыкі і аказвалася-б тэхнічная дапамога ў мэтах садзейнічаньня стварэньню малых і сярэдніх прадпрыемстваў.

Беларусь і ЗША таксама падпісалі мэмарандум аб узаемаразуменьні, у якім выказваецца іх намер стварыць Сумесную камісію па аграбізнэсу і разьвіцьцю сельскі раёнаў, якая будзе мабілізаваць сродкі для разьвіцьця прыватнага прадпрымальніцтва ў сельскіх раёнах Беларусі, якія будуць атрыманыя ад продажу харчовых тавараў, перададзеных у дарунак Злучанымі Штатамі.

Бяручы пад увагу нядаўна падпісаны ў Вашынгтоне пратакол паміж Злучанымі Штатамі і Беларусьсю аб выдзяленьні крэдытаў Беларусі на закупку экспартаванай з ЗША пшаніцы, Прэзыдэнт Б.Клінтан паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савету С.Шушкевічу аб наяўнасьці дадатковых крэдытаў, якія могуць быць выкарыстаны для закупкі ў ЗША харчовых тавараў.

Старшыня Вярхоўнага Савету С.Шушкевіч і Прэзыдэнт Б.Клінтан з задавальненьнем адзначылі факт заключэньня двухбаковага пагадненьня па навуцы і тэхніцы. Гэтым дакумэнтам прадугледжваюцца хуткае пашырэньне абмену навуковай інфармацыяй і сумесная навукова-дасьледчая дзейнасьць, што прынясе хуткую і практычную карысьць грамадзянам абедзьвюх краін у галіне аховы здароўя, адукацыі і аховы навакольнага асяродзьдзя. Чакаецца, што пагадненьне па навуцы і тэхніцы адкрые дарогу будучым праграмам і пагадненьням у шэрагу канкрэтных галін, уключаючы такія важныя пытаньні, як супрацоўніцтва па вывучэньню і зьмяншэньню шкоднага ўзьдзеяньня чарнобыльскай атамнай катастрофы, якое працягваецца дагэтуль.

Была дасягнута дамоўленасьць працягваць работу над хутчэйшым заключэньнем пагадненьняў аб пазьбяганьні двайнога падаткаабкладаньня і аб сурпрацоўніцтве ў мірным выкарыстаньні атамнай энэргіі.

У час свайго візыту ў Менск Прэзыдэнт Б.Клінтан аб'явіў аб перадачы ў дарунак Рэспубліцы Беларусь мэдыцынскага абсталяваньня на суму 10 млн. даляраў, уключаючы кошт навучаньня пэрсаналу. Гэтага абсталяваньня будзе дастаткова, каб аснасьціць бальніцу на 1500 ложкаў. Гэты дар будзе разьмеркаваны паміж некалькімі мэдыцынскімі ўстановамі Беларусі, уключаючы дзіцячыя мэдыцынскія цэнтры. Жонка Прэзыдэнта пані Гіляры Родэм Клінтан агледзела першую партыю грузу гэтага дару ў час наведваньня дзіцячай бальніцы № 4 Менску.

Старшыня Вярхоўнага Савету С.Шушкевіч і Прэзыдэнт Б.Клінтан таксама абмеркавалі пэрспэктывы правядзеньня дэмакратычных рэформ у Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савету коратка асьвятліў ход работы, выкананай да гэтага часу, па падрыхтоўцы праекту першай канстытуцыі незалежнай Беларусі і абрысаваў пэрспэктывы правядзеньня ў краіне дэмакратычных выбараў у 1994 годзе. Прэзыдэнт Б.Клінтан выказаў спадзяваньне, што гэтыя выбары адбудуцца, і паабяцаў аказаць пры іх правядзеньні тэхнічную дапамогу з боку ЗША, як толькі Вярхоўны Савет абвесьціць дату выбараў. Кіраўнікі дамовіліся аб неабходнасьці працягваць стварэньне трывалай структуры дэмакратычнага кіраваньня ў Беларусі, якая ўключала-б надзейную абарону асабістых правоў усіх грамадзян у адпаведнасьці зь міжнародна прызнанымі стандартамі. Старшыня Вярхоўнага Савету і Прэзыдэнт асабліва адзначылі важнасьць у дэмакратычным грамадзтве свабоды слова, а таксама адкрытага і роўнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Дынамічнае дэмакратычнае партнэрства паміж Беларусьсю і Злучанымі Штатамі пойдзе на карысьць абедзьвюм краінам і будзе садзейнічаць міжнароднаму міру, стабільнасьці і росквіту.

**Vera Rich**

## RECIPE FOR A MIRACLE

*First take a land –*
*(There is no blank space on the map, so search around)*
*For one that has vanished – eaten, eroded, nibbled*
*To nothingness by its neighbours), take a history*
*Taught as the history of others, take a language*
*Scorned as a dialect, mix in a name*
*Banned and lost from the atlas, add a people*
*Long pressed to forget history, name and tongue.*
*Knead these, and set aside to prove...*

*Then take*
*A flag of simple colours, colours of bone*
*And blood, of bread and wine, water and fire,*
*Colours of faith and love. Add, too, a symbol*
*Cursed and proscribed (and shared, be it said, with a neighbour),*
*Pour in a full measure of tears, distilled from griefs*
*Both old and new: three birches where four should stand,*
*Children conceived under the Wormwood star,*
*And the bones and buttons and bullets of Windflower Hill...*
*All these you must blend together, drop by drop,*
*In the chalice of time...*

*Then, on the day appointed*
*(You will know it, friend, you will know!), when the world is looking*
*Elsewhere, take the chalice and gently, very gently*
*Trickle the mixture into the risen dough,*
*And bake it in Clio's oven...*

*Some, at this moment,*
*Will caution prudence, warn of the winter coming,*
*Of warmth and light to be bought from a wealthy neighbour.*
*Of idle workshops, goods that will find no buyer –*
*And a world that often, so often, forgets to care...*
*Ignore these oracles, friend...*

*Preprare your loaf,*
*Wrap it in linen, wreath it around with cornflowers,*
*Then call to your friends, (they will all be friends that day,*
*Seven score and more of them!), cry you are coming*
*To take the waiting chair at their banquet table.*

**London, 14.X.1993**

*Беларускі пераклад гэтага вершу, зроблены В. Рыбаковым і У. Палупанавым, апублікаваны ў Ліме за 24.XII.93.*

## ПЛЯНЫ БЕЛАРУСІСТАЎ НА 1994 г.

Паважаныя калегі!

Міжнародны камітэт беларусістаў інфармуе, што ў 1994 годзе нашай асацыяцыяй будуць арганізаваны, або з нашым удзелам праведзены, наступныя навуковыя канфэрэнцыі:

1. «Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзьдзеяньне на беларускую і іншыя культуры». Менск, канец мая – пачатак чэрвеня 1994 г. Колькасьць удзельнікаў — да 50.

2. «Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеяньне канца 19 – пачатку 20 ст. (У гонар 150-годзьдзя з дня нараджэньня і 100-годзьдзя прабываньня на Віцебшчыне Ільлі Рэпіна)» — сумесна зь Віцебскім абласным краязнаўчым музеем. Віцебск – Здраўнева, пачатак верасьня 1994 г. Колькасьць удзельнікаў — да 30.

3. «Беларуска-баўгарскія сувязі (мова, літаратура, гісторыя, эканоміка)». Менск, верасень 1994 г.

4. «Беларуска-амэрыканскія гісторыка-культурныя ўзаемаадносіны: традыцыі і сучаснасьць». Менску, кастрычнік 1994 г. Колькасьць удзельнікаў — да 80. У часе канфэрэнцыі мяркуецца правесьці пасяджэньне Міжнароднага камітэту беларусістаў.

5. «Беларусь першай паловы 19 ст. і Ян Баршчэўскі (да 200-годзьдзя з часу нараджэньня пісьменьніка». Віцебск – Полацк, лістапад 1994 г. Колькасьць удзельнікаў — да 30.

Мяркуецца, што некаторыя канфэрэнцыі будуць часткова фінансаваца культурнымі і дабрачыннымі фондамі (праезд зарубежных удзельнікаў).

Заяўкі на ўдзел у канфэрэнцыях просім прысылаць на новы адрас МКБ: БЕЛАРУСЬ, 220050, МЕНСК-50, Рэвалюцыйная 15, МАБ.

Перавага пры разглядзе заявак (пры іншых роўных магчымасьцях) будзе аддавацца сябрам МАБ.

**Міжнародны камітэт беларусістаў**

### МУЗЭЙ К. КАЛІНОЎСКАГА

У кастрычніку летась Сьвіслацкі райвыканкам і Гарадзенская абласная дэпутацкая камісія па навуцы, культуры й адукацыі прынялі пастанову аб перадачы Сьвіслацкаму краязнаўчаму музэю будынка Сьвіслацкай гімназіі (сэмінарыі) пад экспазыцыю Кастуся Каліноўскага.

Калі хто-небудзь з чытачоў «Беларуса» мае які-небудзь матар'ял для экспазыцыі, ён можа пераслаць яго на адрас старшыні Рады Гарадзенскай Краязнаўчай Асацыяцыі др. Андрэя Майсяёнка: Andrej Maiseenak, 230009 Grodno, 50 Tarashkevish Blvd., (BLK-50), BELARUS.

**НОВАЯ ФОРМА АДРАСУ «БЕЛАРУСА»!**

Калі ласка, запішэце сабе новую форму адрасу газэты «Беларус»:

**Bielarus**
**P.O. Box 178**
**Jamaica, NY 11431-0178**

# ЗВАРОТ

## праўленьня Згуртаваньня Прадпрымальнікаў Беларусі да сяброў згуртаваньня, прадпрыемстваў усіх форм уласнасьці, грамадзян Рэспублікі Беларусь

З-за некампэтэнтных дзеяньняў ураду эканоміка Беларусі апынулася ў катастрафічным стане. За пераше паўгодзьдзе 1993 году ў параўнні з адпаведным пэрыядам мінулага году нацыянальны даход зьнізіўся на 14%, цэны выраслі ў 9-14 разоў, вытворчасьць мяса і малака скарацілася адпаведна на 14% і 16%, аб'ём вытворчасьці ў прамысловасьці зьнізіўся на 16,3%, колькасьць стратных прадпрыемстваў павялічылася з 379 да 547. Жыцьцёвы ўзровень жыхароў абвальна зьніжаецца. З-за адсутнасьці энэргарэсурсаў спыняюцца многія прадпрыемствы.

Такая сытуацыя ёсьць вынік непасьлядоўнай, непрафэсійнай дзейнасьці кабінэту В. Кебіча на працягу ўсяго пэрыяду яго дзейнасьці на гэтай пасадзе. Менавіта ўрад В. Кебіча спрыяў згортваньню эканамічных сувязяў з партнэрамі за межамі краіны шляхам увядзення «мер о защите потребительского рынка», пастаянна праводзіў згубную палітыку татальнага рэгуляваньня цэнаў шляхам датацый і штучнага падтрымваньня занятасьці і прадпрымальніцтва сыстэмы падаткаў і збораў, расьцягваньня нацыянальнага багацьця краіны больш «рыначнымі» суседзямі. Гэта не дало магчымасьці ўвесьці нацыянальную валюту і замацаваць сувэрэнітэт. Урад пастаянна зьяўляўся і зьяўляецца ініцыятарам разнастайных авантурных захадаў па вырашэньню эканамічных праблем: «адзіная рублёвая зона» — «калектыўныя бясьпека» — «славянскі саюз» — «рублёвая зона новага тыпу» —«обновленный союз». А вынік роўны нулю.

Яшчэ ў 1990 годзе, у самым пачатку дзейнасьці Вярхоўнага Савету, дэмакраты-рэалісты выступілі з прапановамі аб стварэньні неабходных умоў для пераходу да рыначных адносін, каб стварыць спрыяльные ўмовы для інвэстыцыйнай дзейнасьці, уратаваць нашу эканоміку ад разбурэньня, каб прадухіліць раскраданьне народнай маемасьці, падрыў вытворчасьці і зьбяднеьне людзей. Але нічога гэтага ня было зроблена.

Праўленьне Згуртаваньня Прадпрымальнікаў Беларусі заклікае Вас:

1. Актыўна ўключыцца ў мерапрыемствы па тэрміновай адстаўцы кіраўнікоў Савету Міністраў, па стварэньню кааліцыйнага ўраду, прызначэньню датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савету, па падтрымцы дэмакратычных партый і рухаў.

2. Працаваць у першую чаргу на сябе. Таму што праца на сябе гэта праца на нашу Радзіму. Мы павінны ўсьвядоміць, што нацыянальныя каштоўнасьці ў нашых руках, у руках народу, лепш захоўваюцца, выкарыстоўваюцца і памнажаюцца. Намэнклятурная большасьць і ва ўрадзе, і ў ВС, ды і на месцах, ня можа прыняць нармальныя ўмовы падаткаабкладаньня для вытворцаў. Яна можа толькі разьмяркоўваць, спажываць бюджэтныя сродкі, заглядаць у кішэню багатым сыравінаю суседзям ды прадаваць незалежнасьць.

3. Стварыць недзяржаўны фонд падтрымкі пачынаючых беларускіх прадпрымальнікаў, незалежнай прэсы і мерапрыемстваў згодна п. 1-га гэтай заявы. Сродкі неабходна пералічваць на рахунак згуртаваньня прадпрымальнікаў Беларусі № 700320 у КБ «Дукат» г. Мінск, МФО 153001767. Абавязковая паметка: «У падтрымку пачынаючых прадпрымальнікаў, дэмакратычнай незалежнай прэсы і арганізацыйных мерапрыемстваў па выбарчай кампаніі».

Зварот прыняты на пашыраным пасяджэньні 16 верасьня 1993 г.
Праўленьня ЗПБ

З павагай,

**М. Люцко,**
**намесьнік старшыні**

Тэл. для даведак 54-76-43

# ІЗНОЎ З ДАПАМОГАЙ

Ад 22 лістапада да 19 сьнежня я знаходзіўся ў Беларусі, куды паехаў з Таронта з мэтай нагляду за разьмеркаваньнем мэдыкамэнтаў і харчовых прадуктаў перасланых Фондам Дапамогі Ахвярам Чарнобыля Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў супрацоўніцтве з амэрыканскай арганізацыяй Сітыгоўп, якую ўзначальвае пастар Пол Мор з жонкай Шэран. Як ужо раней згадвалася на старонках «Беларуса» (№№ 399 і 400), папярэдняй падобнай перасылкай дапамогі і яе разьмеркаваньнем займалася таксама Сітыгоўп. Гэтым разам вартасьць дапамогі была ў вышыні каля паўтара мілёна даляраў.



*У Цэнтры Інвалідаў Сьляпых: (зьлева) дырэктар Цэнтру і народны дэпутат Міхаіл Драздоў, Мікола Ганько, Лінда Браатэн.*

Прыехаўшы ў Менск, я наладзіў кантакт са сп-няй Ліндай Браатэн, кіраўнічкай менскага аддзелу Сітыгоўп. Першае, што трапіла для распадзелу – гэта дзіцячыя харчы фірмы Гербэр. Іх мы накіравалі ў дзіцячую гэматалягічную клініку Першай менскай бальніцы. Загадчыца клінікі др. Вольга Алейнікава перажывала, што атрымалася затрымка з транспартам, але на другі дзень усё пайшло лепш.

Наведалі мы таксама дзіцячую бальніцу № 3, долю мэдыкамэнтаў передалі др. Людміле Дручыц і ейнай заступніцы др. Людміле Казачковай.

У вялікай бальніцы № 1, што знаходзіцца пасуседзку з Акадэміяй Навук і хіба найбольш выконвае розных функцыяў, якіх ня могуць выканаць абласныя й раённыя бальніцы, прынялі нас галоўны доктар Уладзімер Палішчук і ягоны заступнік др. Анатоль Вайтовіч. Загадчык хірургічнай клінікі некаторыя лекі проста асабіста браў пад сваю апеку з намерам ужыць іх адразу-ж у лекаваньні. У пляне таго-ж дня, позна папаўдні, было яшчэ наведаньне раённай дзіцячай бальніцы.



*У Магілёўскай абласной бальніцы: (на пярэднім пляне, зьлева) Мікола Ганько, др. Тамара Сяржан і др. Канстанцін Бахановіч.*

Наладзіліся добрыя працоўныя адносіны. Пазнаёміўся зь іншымі працаўнікамі аддзелу, завэрбаванымі зь мясцовых беларусаў. Пакуль прыйшоў кантэйнар з грузам, было крыху вольнага часу, але выкарыстаць яго належна не давялося. бо ў раёне, дзе знаходзілася мая кватэра, амаль цэлы тыдзень не працаваў тэлефон.

Кантэйнар прыбыў 27 лістапада, а разгрузка пачалася 29-га. Разьмеркаваньнем мэдыкамэнтаў займаецца працаўніца Сітыгоўп др. Тамара Аляксандраўна Сяржан. У большыні зь ёй і давялося працаваць.

Наступны дзень быў крыху менш заняты, бо на раскладзе былі ўсяго тры аб'екты: дзіцячая бальніца № 4 ды бальніцы № 10 і № 7 для дарослых. У першай зь іх мэдыкамэнты прымалі галоўны лекар др. Алена Андрончык, у 10-й бальніцы – др. Галіна Сяргеевіч, а з 7-й – Люба Аляксандраўна. Усе былі вельмі ўдзячныя за привезеныя рэчы.

*(Працяг на 8-й ст.)*

### ПАТРЭБНАЯ ДАПАМОГА АКАДЭМІЧНАМУ АБМЕНУ БЕЛАРУСЬ – КАНАДА

Унівэрсытэт правінцыі Альбэрта падпісаў пагадненьне зь Беларускім Лінгвістычным Унівэрсытэтам у Менску аб абмене студэнтамі, які пачнецца ў верасьні сёлета. Канадзкія студэнты ня будуць мець цяжкасьцяў падарожнічаць у Менск. Куды цяжэй будзе беларускім студэнтам набыць білет на самалёт у Канаду. У сувязі з гэтым унівэрсытэцкія ўлады ў Канадзе даручылі др. Дэйвіду Марпэлсу зь гістарычнага факультэту Альбэртаўскага Ў-ту знайсьці фонды для аплаты падарожжа хоць-бы аднаго беларускага студэнта на сымэстар у канадзкім унівэрсытэце.

Чэкі, выстаўленыя на The University of Alberta просіцца пасылаць др. Марпэлсу на адрас: Dr. David R. Marples, Department of History, HM Tory 2-28, University of Alberta, Edmonton, Canada T6G 2H4.

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

### УДАЛАЯ СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ

Вельмі прыемнай была летась/сёлета сустрэча Новага Году ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры пад лагодную музыку Зьміцера Яўтуховіча й Пятра Скепкі. Музыка нарэшце не перашкаджала сваім громам гаварыць за сталамі, не балелі вушы, ня трэба было зрываць голасу, каб сказаць нешта, і напружвацца, каб пачуць словы суседа. І да ўсяе гэтае палёгкі быў цудоўны беларускі рэпэртуар, які лагодзіў душу слухачоў. Пятру й Зьміцеру за гэта вялікая падзяка!

# СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

## ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

Сьвяткаваньне было арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі 27 лістапада ў залі Беларускай Бібліятэкі імя Скарыны. Адкрыў акадэмію сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Ён падкрэсьліў гістарычную важнасьць чыну случчакоў, які натхняў наступныя пакаленьні змагароў за Беларусь.

З рэфэратам на тэму дня выступіў аўтар гэтых радкоў, гаворачы пра далейшую долю Беларусі, падзеленую Рыжскім трактатам 1921 году — пра ганебную мяжу, рэпрэсіі, нацыянал-дэмакратаў у БССР, грамадаўцаў і Таварыства Беларускае Школы ў Заходняй Беларусі, пра ахвяры польска-бальшавіцкай змовы.

Быў зачытаны прывітальны ліст ад сп. П. Гуза, старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія.

Сп. Міхалюк падзякаваў за ўдзел у сьвяткаваньні прысутным, сярод якіх былі пасол Беларусі сп. А. Якавецкі, Дж. Дынглі — старшыня Англа-Беларускага Таварыства, сп-чна В. Рыч, сп. С. Каранеўскі з Аўстраліі, госьці зь Менску.

У часе сьціплага пачастунку, падрыхтаванага сп-няй Л. Міхалюк, людзі праводзілі час у самай цёплай прыязнай атмасфэры.

**А.Здanковіч**

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Сыднэю й ваколіц урачыста адзначылі 28 лістапада 73-я ўгодкі Слуцкай Абароны. Пачалося сьвяткаваньне ў Гомбушскай праваслаўнай царкве. Пасьля літургіі а. Ігар адслужыў паніхіду па тых, што загінулі за свабоду Беларусі. Перавязаны жалобнай істужкай беларускі нацыянальны сьцяг падчыркваў важнасьць мамэнту ў перапоўненай царкве. Урачыста прагучэў рэлігійны гімн «Магутны Божа».

Другая частка праграмы адбылася ў Беларускім Культурна-Грамадзкім Клюбе. Старшыня клюбу М. Лужынскі коратка расказаў пра Случчыну і асэнсаваў значэньне Слуцкай Абароны БНР. Хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць палеглых. Прамаўлялі спсп. М. Зуй і В. Элькановіч. Былі зачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы з розных канцоў сьвету. Гучным адсьпяваньнем нацыянальнага гімну закончылася афіцыйная частка.

Адбыўся супольны абед, за які трэба аддаць належную пашану нашым гаспадыням: Вандзе Марчанка, Гэлі Рыжэнка, Міраславе Бакуновіч, Олі Бакуновіч і іншым. Шчыры дзякуй належыцца гаспадару клюбу Васілю Марчанка, які добра папрацаваў, каб выгадна пасадзіць усіх прысутных, якіх была поўная заля. Заступнік старшыні Мікола Антух уручыў гаспадыні Вандзе букет кветак як прызнаньне за багаты стол.

Песьні й размовы, што зацягнуліся надаўжэй, сьветчылі аб цёплай сяброўскай атмасфэры, аб тым, што сяброўская бяседа была ўдалаю.

Сярод прысутных было больш за 20 асобаў нашае новае іміграцыі, якіх шчыра вітаем ды спадзяёмся, што яны ў хуткай будучыні пяройmуць эстафэту.

На разьвітаньне дамовіліся пабачыцца ізноў на супольнай сустрэчы Новага Году.

**М.Л.**

## ПЭРТ, АЎСТРАЛІЯ

Акадэмія, прысьвечаная ўгодкам вайны Беларускай Народнай Рэспублікі з Савецкай Расеяй, адбылася ў нядзелю 28 лістапада ў залі Беларускага Народнага Дому ў Байсвотэры. Урачыстасьць адчыніў старшыня акадэміі сп. Міхась Раецкі малодшы, пасьля чаго быў адыйграны беларускі нацыянальны гімн (напісаны ўдзельнікам Слуцкага Збройнага Чыну Макарам Краўцовым, а на музыку пакладзены У. Тэраўскім).

Сьпісак сяброў Беларускага Аб'еднаньня, што адыйшлі на вечны супачын, прачытаў Р.М., і памяць усіх, хто аддаў сваё жыцьцё за лепшае заўтра беларускага народу, была ўшанавана хвілінай маўчаньня.

Даклад аб значэньні Слуцкага Чыну для нас і наступных пакаленьняў прачытаў Р.М. Зацікаўленьне дакладам было вялікім, аб чым сьветчылі гучныя воплескі.

Пасьля афіцыйнай часткі праграмы быў пачастунак, за падрыхтаваньне якога выказваем падзяку нашым сяброўкам з Б.А. Падчас пачастунку разглядалася справа: як сабраць грошы на заплянаваную пабудову свае царквы.

**Р.М.**

# ШЧОДРЫ ПАДАРУНАК ЦАЦАК ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ

Дзякуючы стараньням мастачкі Тамары Стагановіч-Кольба, дзецям на Беларусі будзе пасланая вялікая колькасьць амэрыканскіх цацак. Цацкі ўзялася пераслаць ведамая дабрачынная арганізацыя Сітыгоўп, на чале якой стаяць пастар і Пол Мор і ягоная жонка Шэран.

У лісьце да сп-ні Т. Кольба каардынатар праграмы дапамогі Сітыгоўп спня Сюзан Л. Ўуд напісала:

«Дарагая Тамара!

«Мы ў Сітыгоўп хочам выказаць Вам найшчырэйшую падзякую і ўдзячнасьць за тое, што дзякуючы Вам дзеці ў Беларусі дастануць на 500 тысячаў даляраў высакаякасных цацак зь фірмы ФАО Шварц. Гэтае ахвяраваньне будзе мець вялізарнейшы ўплыў на хворых беларускіх дзетак, і гэта ўсё сталася магчымым дзякуючы Вам. ...

«Хоць Сітыгоўп працягвае пасылаць жыцьцератавальныя мэдыкамэнты дзецям, якімі напоўненыя беларускія шпіталі і ўстановы, гэта здабытыя Вамі цацкі выклікаюць вялікія ўсьмешкі на іхных тварах. Дзеці вельмі слаба разумеюць лекаваньне раку мэдыкамэнтамі, якія, мы спадзяёмся малітоўна, уратуюць іхнае жыцьцё. Але калі дзеці адчыняюць сьвяточныя пакункі, у якіх знаходзяцца вялікія зьвяркі-цацкі, якіх яны ніколі ня бачылі, мякчэйшыя за ўсё, да чаго яны дасюль дакраналіся, ... гэта якраз прыносіць ім вялікую радасьць. У Бібліі-ж сказана, што 'радаснае сэрца — добры лек', і Вы далі дарагім дзецям такога роду лек шырокім асартымэнтам цацак».

Далей у лісьце кажацца, што шмат цацак ужо выслана на Беларусь, дзе працаўнікі Сітыгоўп раздалі іх па менскіх шпіталёх. Кіраўнік праграмы апекі над дзецьмі паведаміў зь Менску: «Найбольшая з усіх прыемнасьцяў — гэта бачыць твары дзяцей, калі яны адчыняюць свае падарункі».

Аўтар ліста падзякавала сп-ні Т. Кольба таксама за атрыманую ад яе ахвяру 350 даляраў на цацкі для дзяцей.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку – Нью-Джэрзі*

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (старшыня Вера Запруднік) падтрымалі сёлета традыцыю калядаваньня: пятнаццаць АБА-Маўцаў, пераадольваючы ці малыя дыстанцыі па засьнежаных дарогах, наведалі каля 30 сем'яў у Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Саўт-Рывэры й Самэрсэце, дзе іх міла бачылі й шчодра частавалі. Словы пажаданьня гаспадаром хаты «Здаровы сьвяткуйце, дайце не шкадуйце» прынесьлі добры плён у касу арганізацыі. Але яшчэ лепшай заплатай калядоўшчыкам былі рашчуленыя гаспадары. «Часамі цяжка сьпяваць, калі бачыш у людзей сьлёзы на вачох», прызналася Вера З.

Усьцешыў ахвярных калядоўшчыкаў сваім падарункам, у дадатак да пачастунку, паэт Масей Сяднёў вершамэкспромтам, які тут-жа й зьмяшчаем:



*Калядоўшчыкі на кватэры сп-тва Мерлякоў: (зьлева) Генадзь Дубяга, Лора Гаралевіч, Натальля Русак, Вера Запруднік, Нэнсі Захаркевіч (іншыя калядоўшчыкі па-за аб'ектывам). Фота Сяргея Трыгубовіча.*

**Масей Сяднёў**

### *КАЛЯДНЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ*

*Рады мы, што без запрашэньняў*
*адмысловых*
*завіталі вы і да Сяднёвых.*
*Ой, якія вы змоўшчыкі,*
*дарагія калядоўшчыкі! —*
*Думалі-гадалі*
*і во да нас завіталі.*
*Пыталася Вера пра дарогу —*
*і вы ня зблудзілі, слава Богу.*
*Каханыя сёстры, дарагія брацьця,*
*ад душы вітаем вас у нашай хаце.*
*Найперш вас частуем — ні блінамі й*
*скваркай —*
*а славутай нашай беларускай чаркай,*
*духмянай настойкай, залацістай,*
*сьвежай,*
*толькі што дастаўленай зь*
*Белавежы.*
*Вып'ем мы пры гэтай калядНай*
*нагодзе,*
*каб жылося добра нам і ў Новым*
*годзе.*
*Вып'ем за народ наш, каб ня ў горы й*
*скрусе*
*там яму жылося ў нашай Беларусі,*
*каб дзе каза рогам,*
*там жыта — стогам,*
*дзе яна нагою,*
*каб жыта — капою.*
*Вып'ем хоць пастольки*
*духмянай настойкі.*
*А калі на тое ваша воля,*
*можам выпіць болей —*
*я-ж ніякі ня нунцый —*
*толькі каб даехалі добра вы да*
*Алюнці.*

*1994 г.*

Алюнця, г.зн. др. Ала Орса-Рамана, запрасіла калядоўшчыкаў да сябе ў дом на пачастунак на завяршэньне аб'езду беларускіх сем'яў у Нью-Ёрку ў сыботу 15 студзеня.

# КАНАДЗКІ ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

На паседжаньні ўправы фонду, якое адбылося ў Атаве 4 сьнежня летась, старшыня сп-ня Івонка Сурвіла зрабіла агляд праробленай працы. За час існаваньня фонду больш як 350 дзяцей зь Беларусі пабылі ў Канадзе ў ваколіцах Атавы й Лёндану. Мы мелі на мэце даць дзецям магчымасьць пазнаёміцца бліжэй са школьнай сыстэмай гэтай краіны ды ўключыць іх у большую грамаду канадзкіх дзяцей.

Мясцовыя настаўнікі былі захопленыя ведамі матэматыкі беларускіх дзяцей, якія хутчэй аблічвалі ў памяці, чымся канадзкія школьнікі на кампутарах. Але дзеці зь Беларусі цікавіліся таксама й кампутарамі ды атрымалі іх як падарункі.

Сп-ня І. Сурвіла паінфармавала, што фонд выслаў на Беларусь каля 14 тонаў розных прадуктаў, у тым ліку мэдыкамэнты, мэдычныя прылады, вопратка, харчовыя прадукты. Калі ўзяць пад увагу вельмі сьціплую колькасьць беларускай эміграцыі ў Канадзе, трэба прызнаць, што гэта вялікае дасягненьне. Толькі прывоз і мэдычнае забясьпечаньне аднаго дзіцяці каштуе 800 канадзкіх даляраў. Кожнае дзіцё павезла дадому значную колькасьць падарункаў, у асноўным вопратку. Канадзкія сем'і трымаюць цесную сувязь зь беларускімі дзецьмі, што пабывалі ў іх, і час ад часу пасылаюць ім рознага роду падарункі. Наш фонд мусіў сабраць каля 350 тысячаў даляраў, каб толькі аплаціць кошты падарожжа. Перасылка прадуктаў каштавала блізу 50 тысячаў даляраў. Фонд таксама

*(Працяг на 7-й ст.)*

*З жыцьця ў Рычманд-Гіле, Нью-Ёрк*

## РУКАПАЛОЖАНЬНЕ ДЫЯКАНА

У сыботу 11 сьнежня 1993 г. ў прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле адбылася вялікая ўрачыстасьць: да нас прыехаў архірэй, шмат духавенства, і многа зыйшлося народу, каб высьвяціць брата Міхаіла Эгрэта ў сан дыякана.

Кіраваў хорам рэгент сп. Сымон Жамойда. Служба была прыгожая і ўрачыстая.

Калі Ўладыка Мікалай перайшоў з кафэдры ў аўтар, ён рукапалажыў Міхаіла Эргрэта ў сан іпадыякана. Пасьля Алег Амінаў быў пастрыжаны ў падрасьнік і пасьвечаны ў сьціхара.

Пасьля Вялікага выхаду «Достойно есть»; Уладыка Мікалай выясьніў вернікам, што значыць «дыяканат» і выканаў абрад рукапаложаньня



Уладыка Мікалай рукапалагае Міхаіла Эгрэта ў дыяканы.

іпадыякана Міхаіла ў сан дыякана, якому ў канцы службы было прагалошана «Многая лета».

Пасьля царкоўных урачыстасьцяў адбылася людная агульная трапеза ў царкоўнай залі. Апрача духавенства, сярод прысутных былі старшыня галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелайць; старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель; сакратар прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры сп. Міхась Сенька; старшыня Фундацыі Крэчэўскага сп. Францішак Бартуль.

Сп. М. Сенька прывітаў новага дыякана Міхаіла. Др. В. Кіпель таксама вітаў сход ды падарыў Уладыку Мікалаю кніжкі: Зянона Пазьняка «Курапаты» і сваю «Беларусы ў ЗША».

Да гэтае даты была праароблена вялікая падрыхтоўка. Наш настаяцель а. ігумен Грэгоры (О'Кіф) каля трох гадоў рыхтаваў брата Міхаіла Эгрэта да сьвятарскага чыну. Брат Міхаіл прайшоў агульную асьвету й духоўную падрыхтоўку. За гэты час ён кожную службу ў нашай царкве служыў з а. Грэгоры. Добра пазнаў царкоўныя звычаі царквы, як і добра пазнаў нашых прыхаджанаў. (Міхаіл роджаны амэрыканец із англамоўнае сям'і).

У міжчасе нашу царкву пачалі наведваць новыя эміґранты з былога СССР. Ім спадабалася наша царква, службы, пропаведзі а. Грэгоры ды атмасфэра пасьля службаў у царкоўнай залі. Айцец Грэгоры заўсёды цікавіўся жыцьцём-быцьцём як прыхаджанаў, так і гасьцей, ніколі не прапусьціў нагоды пагаварыць зь людзьмі, асабліва новымі. Ветліва ставіліся да новых людзей царкоўнае кіраўніцтва й прыхаджане. Вось-жа з новых прыхаджанаў сп. Алег Амінаў выявіў жаданьне пасьвяціцца ў сьціхары. Гэта таксама было прымеркавана на дату архірэйскае службы. Алег Амінаў прыехаў з далёкага Таджыкістану.

Уладыка Якавас, Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха, прызначыў на нашу ўрачыстасьць Яго Праэсьвяшчэнства Епіскапа Мікалая Амісоскага (Сміско). Спатыкалі Ўладыку Мікалая а. ігумен Грэгоры, настаяцель, і старшыня царкоўнае ўправы сп. К. Мерляк з хлебам-сольлю й сьв. крыжам. Малыя дзяўчаткі ўручылі кветкі. Ад амбоны да кафэдры стаялі ў два рады айцы, удзельнікі сьвяткаваньня: а. архімандрыт Германос (кіраўнік канцыляры Грэцкае Архіепархіі), а. ігумен Грэгоры (О'Кіф), а. протапрасьвіцер Сьцяпан Шутак, а. протапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш, а. іераманах Джэймс (Глізон), а. Лука Мігалі, а. Пётр Папроскі, а. іерадыякан Вільям (Сміт), а. дыякан Міхаіл Казан. Прыслужнікамі былі: а. іпадыякан Пётр Бэніо і а. іпадыякан Павал Стол.

**Васіль Шчэцька**

### РАДЫЯКТЫЎНЫЯ ЯЛІНКІ І ЧАРНОБЫЛЬ

Некаторыя амэрыканскія газэты («Нью-Ёрк Таймс», «Ньюсдэй», 30.XII) зьмясцілі паведамленьне прэсавага агенцтва Асошыэйтэд Прэс, якое падало з Гомелю за Белінфармам пра заражаныя чарнобыльскай радыяцыяй наваградня-калядныя ялінкі.

### ДАВЕДНІК ДАСЬЛЕДНІЦКІХ ІНСТЫТУТАЎ

Амэрыканскі Інстытут імя Кенана Паглыбленага Вывучэньня Расеі сумольна з Расейскай Акадэміяй Навук выдалі даведнік — A Scholar's Guide to Humanities and Social Sciences in the Soviet Successor States (228 pp.), у якім падаецца інфармацыя пра дасьледніцкія інстытуты акадэміяў навук рэспублікаў былога СССР, у тым ліку Беларусі.

Даведнік можна набыць у выдавецтве — M.E. Sharpe, Armonk, NY: 914-273-1800; fax: 914-273-2106.

*З жыцьця ў Гайленд-Парку, Н.-Дж.*

## УШАНАВАНЬНЕ ТАІСЫ Й ДАНІЛЫ АНДРЭЮКОЎ

8-га студзеня настаяцель парафіі Божай Маці Жыровіцкай а. прат. Васіль Андрэюк і матушка Вольга адзначылі 18-я ўгодкі народзін сваіх дзяцей, Таісы й Данілы. Урачыстасьць адбылася ў парафіяльнай залі царквы. Нягледзячы на дрэннае надвор'е, каля 90 асобаў прыбыло на ўрачыстасьць.



*Бацькі і імяніньнікі: а. Васіль Андрэюк і матушка Вольга зь дзецьмі Таісай і Данілам. Фота Сяргея Трыгубовіча.*

Сказаўшы малітву, а. Васіль спыніўся на прыезьдзе яго і ягонае сям'і ў Амэрыку ў 1988-89 гадах ды пачатках жыцьця й працы. Ён адзначыў, што ён і яго сям'я чуліся тут заўсёды як дома.

Сп-ня Г. Русак вітала імяніньнікаў з днём народзін, пажадала ім мець поспех у навуцы, асабістым жыцьці ды быць заўсёды часткай гэтай грамады. Сп. В. Русак расказаў крыху пра пачатковую стадыю жыцьця сям'і а. прат. В. Андрэюка, падкрэсьліў мамэнт поўнага ўліцьця гэтай сям'і ў нашае царкоўнае й грамадзкае жыцьцё ды выказаў надзею, што ўсе новапрыбываючыя іміґранты зробяць тое самае. Сп. А. Шукелайць, старшыня БАЗА, вітаючы імяніньнікаў, адзначыў факт, што прыезд а. В. Андрэюка й яго сям'і ў гэтую парафію шмат прычыніўся да актывізацыі жыцьця ў гэтым асяродку ды заклікаў новых іміґрантаў уключацца ў беларускае грамадзкае й царкоўнае жыцьцё.

Музыка й сьпеў пад кіраўніцтвам сп. П. Скепкі ўзбагацілі сьвяточны настрой гэтае ўрачыстасьці.

**Р.Б.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА

Ужо 16 гадоў узапар як Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага падрыхтоўвае калядную ялінку ў Музэі Навукі й Індустрыі. Хоць і цяжкасьці



*Пры ялінцы нашы суродзічы зь Менску (справа) і архітэктар з Чыкага.*

ўжо надараюцца — бо што раз то менш ахвотнікаў пры ўборы ялінкі па прычыне здароўя — усё-ж ахвота і стымул зрабіць нешта арыгінальнае, непаўторнае падбадзёрвае іншых да працы.

Летась прыбралі ялінку 12 лістапада, папоўніўшы ейны ўбор новымі аздобамі, нарыхтаванымі нашай майстрыцай Людвікай Беленіс.

8-га сьнежня сп-ня Вера Рамук прадэманстравала для наведнікаў у музэі тэхніку рахтываньня аздобаў з саломкі. Зацікаўленасьць публікі выявілася ў шматлікіх пытаньнях. У гэты дзень музэй наведалі сп. Мікалай Сінкевіч, дырэктар Дзяржаўнага Музэя Прыроды й Экалёгіі ў Менску, а таксама сп-ня Ірына Віктаровіч, перакладчыца і настаўніца.

Яны абое прывезьлі зь Менску на выстаўку ў Чыкага малюнкі чарнобыльскіх дзяцей пра жахлівасьць ядзернай аварыі. Сп. Сінкевіч, пабачыўшы беларускую ялінку, сказаў аўтару гэтых радкоў: «Вы робіце добрую работу. Ялінка надзвычайная». А сп-ня Віктаровіч, гледзячы на ялінку, зазначыла, што чагосьці падобнага, як гэтыя прыгожыя аздобы з сугуччам калёраў, яна ня бачыла ў Беларусі і жадала-б іх мець у Менску.

У мінулым годзе Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага выдаў калядныя карткі з выявай ялінкі ў музэі.

Калядны фэстываль закончыўся 3-га студзеня.

На гэтым месцы трэба выказаць падзяку тым, хто прыбіраў і разьбіраў ялінку: сп-ні Ірэне Панўцэвіч, сп. Лявону Беленісу, сп-тву Маргарэце і Васілю Багданом, сп-ні Любе Кавалёнак і сп-ні Веры Рамук.

**Др. Вітаўт Рамук**

### ПАДПІСКА НА МЕНСКІЯ ГАЗЭТЫ

«Голас Радзімы» паведаміў сваім чытачам у Амэрыцы, што яны могуць падпісацца на гэтую тыднёвую газэту праз фірму East View Publications (3020 Harbor Lane N., Minneapolis, MN 55447; Tel.: 1-800-477-1005).

Там-жа можна падпісацца і на шмат якія іншыя беларускія газэты і часапісы.

## У ПАМЯЦЬ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

На Дзяды, 2 лістапада 1993 году, у Чэрвені (былым Ігумене) была ўрачыста адкрытая памятная дошка на доме, дзе гадамі 2-й сусьветнай вайны жыў славуты кампазытар Мікола Равенскі (аўтар разьбянай дошкі — мясцовы мастак Генадзь Матусевіч).




Імя й музыка Равенскага толькі апошнімі гадамі сьмела загучалі на Бацькаўшчыне. Са словам падзякі да прысутных зьвярнулася дачка кампазытара Вольга Аляксеенка. Менскі хор «Унія» ў актавай залі чэрвенскай сярэдняй школы №1 даў канцэрт з твораў Міколы Равенскага. Ледзь загучала чыстая высокая мэлёдыя гімну «Магутны Божа», прысутныя ўсталі...

**В.Т.**

*З жыцьця ў Чыкага*

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА «ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ»

Увечары 7 сьнежня 1993 г. была адкрытая выстаўка «Дзеці Чарнобыля» ў фае чыкагаўскага Музэя Архітэктуры і Дызайну. Выстаўка была наладжаная пад патранатам беларускага пасольства ў Вашынгтоне ў супрацоўніцтве з Мэдычным Цэнтрам сьв. Лукі ў Чыкага і з дапамогай Беларускага Дзяржаўнага Музэя Прыроды й Экалёгіі ў Менску ды пры падтрымцы аўстрыйскай самалётнай кампаніі і банку Нордэрн Траст Кампані. Ініцыятарам і адказным за выстаўку быў куратар Музэя архітэктуры сп. Крыстыян Наркевіч-Лэйн, які паходзіць зь беларускага роду Наркевічаў-Ёдкаў, што ўславіўся ў мэдыцыне ў 19-м стагодзьдзі ў Беларусі.

На выстаўцы было разьвешаных каля 120 малюнкаў, зробленых дзецьмі, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Яны ілюструюць жахлівасьць трагедыі ядзернага пажару, у іх цікавыя ідэі выяўленыя ў зыркіх колерах, што кранаюць глыбока за сэрца гледача.

Адказным за падбор малюнкаў быў дырэктар Беларускага Дзяржаўнага Музэя Прыроды й Экалёгіі сп. Мікалай Сінкевіч, а заданьнем настаўніцы, сп-ні Ірыны Віктаровіч было афармленьне ангельскіх тэкстаў пры кожным малюнку. Напісы на малюнках, праблемныя дзецьмі, былі ў большыні па-расейску, а гэта таму, што дзеці вучыліся ў расейскамоўных школах, як паясьніла сп-ня Віктаровіч.

Мэта выстаўкі — паказаць шырокаму грамадзтву, якую шкоду здароўю дзяцей спрычыніла і спрычыняе чарнобыльская аварыя.

На адкрыцьці выстаўкі былі прадстаўнікі амэрыканскай і беларускай грамадзкасьці Чыкага, сьвятары розных веравызнаньняў, кіраўнікі гэбрэйскай грамады, лекары ды прадстаўнікі мастацкіх й дыпляматычных колаў.

З прамовамі выступілі сп. Хрыстыян Наркевіч-Лэйн; беларускі амбасадар з Вашынгтону сп. Сяргей Мартынаў (які гаварыў аб стане здароўя дзяцей у чарнобыльскай зоне); нагадаў пра Беларусь у сваім слове і прадстаўнік тэлевізійнай станцыі ў Чыкага сп. Біл Кэртыс, які наведаў Чарнобыль.

Выстаўка закочылася 10 студзеня, але арганізатары плянуюць паказаць яе і ў іншых амэрыканскіх гарадох.

**Др. Вітаўт Рамук**

*З жыцьця ў Парыжы*

## МАЛІТВЫ Й ДУМКІ ПРА БЕЛАРУСЬ

У нядзелю 9 студзеня, як заўсёды ад даўных гадоў, маленькі гурток беларускіх эмігрантаў у Францыі ў памешканьні Беларускае Каталіцкае Місіі і арганізацыі «Хаўрус» спаткаў дарагога айца Аляксандра Надсона зь Лёндану. Супольна адсьвяткавалі прыход Новага Году.

Прыехалі на спатканьне некалькі беларускіх сем'яў з гораду й ваколіцаў і ў вельмі прыемнай атмасфэры падчас багаслужбы памаліліся за здароўе ўсіх, каго любяць, за лепшую долю Бацькаўшчыны.

Падчас прыняньця, якое так удала падрыхтавалі жанчыны, наш духовы апякун а. Надсон сказаў: «Наша Беларусь станецца такой, якую мы будзем здольныя адбудаваць, і таму ўсе высілкі, усе ахвяры ад кожнага з нас патрэбныя, і чым больш будзем думаць аб сваёй Бацькаўшчыне, ўсё рабіць для яе, тым прыгажэйшай, тым мацнейшай, вольнай і дэмакратычнай яна будзе».

**Міхась Н.**

## АХВЯРЫ БЕЛАРУСКАМУ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ

| | |
|---|---|
| А. Сацэвіч (ЗША) | ам. д. 50 |
| К. Калоша (ЗША) | 50 |
| Я. Шычык (ЗША) | 20 |
| А. Лашук (Англія) кружэлкі (2 разы) | |
| М. Лужыніскі перасылка кружэлак | |

Усім ахвярадаўцам – найшчырэйшае беларускае дзякуй.

**Міхась Раецкі, кіраўнік БРК.**

## «ЧЫКАГА ТРЫБЮН» ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

Папулярная газэта «Чыкага Трыбюн» (12.XII) зьмясьціла артыкул свайго карэспандэнта Марка Каро з дэтальным апісаньнем выстаўкі малюнкаў беларускіх дзяцей чарнобыльскае зоны і з тлумачэньнем радыяцыйнай сытуацыі на Беларусі, якое даў у часе адчыненьня выстаўкі пасол РБ сп. С. Мартынаў. Газэта падала словы дырэктара Музэя Архітэктуры і Дызайну сп. К. Наркевіч-Лэйна, які сказаў, што ён гатовы пасьвяціць сябе справе пашырэньня інфармацыі пра радыяцыйную катастрофу на Беларусі.

## «ПРАМЕНЬ» — ОРГАН ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У КВЭБЭКУ

Згуртаваньне Беларусаў у Квэбэку (ЗБУК) пачало выдаваць летась свой часапіс (неадпаведна названы «газэтай») «Прамень». «Мы спадзяёмся зрабіць так, — пішуць у трэцім нумары галоўная ўправа ЗБУК і рэдакцыя, — каб нашая газэта выходзіла чатыры разы на год».

Галоўныя намаганьні сяброў ЗБУК накіраваныя на набыцьцё свайго грамадзкага памешканьня, каб магчы лепш праводзіць дзейнасьць. Дай Божа ўдачы! Спадзяёмся, што беларускае грамадзтва падтрымае гэты добры намер адпаведнай фінансавай ахвярнасьцяй. Адрас ЗБУК і рэдакцыі «Праменя»: 1973 Romiti, Chomedey, Laval, Quebec H7N 1J7. Canada. Tel.: 973-1639.

Асноўны аўтар нумару — сп. Раман Кардонскі. У сваёй аўтабіяграфіі ён падае, што нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Войштавічы Валожынскага раёну Менскай вобласьці; мае вышэйшую адукацыю, скончыў Рыскі Тэхнічны Ўнівэрсытэт. За антыкамуністычную дзейнасьць быў звольнены з працы і ў 1991 годзе быў прымушаны выехаць за мяжу. У Канадзе зь лістапада 1992 году. Жанаты. У сакавіку летась рукапакладзены Мітрапалітам БАПЦ Мікалаем у паддыяканы; рыхтуецца на сьвятара.

## ПАПРАЎКА

У артыкуле Раісы Жук-Грышкевіч у №407 «Беларуса» павінна быць:

«. . . Натальлю Арсеньневу, адну з найбольшых беларускіх **паэтаў**», а не «паэтак».

Памылкова таксама пададзены год, калі Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады зарганізавала першую выстаўку мастачкі Галіны Русак. Было гэта ўвосень 1969 году, а не 1989-га.

## *ПАПУЛЯРНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКІХ БАРДАЎ*

**і незадавольнены попыт на касэткі**

На нядаўным славянскім фэстывалі аўтарскай песьні ў Кіеве Беларусь прадстаўлялі Алег Атаманаў, Віктар Шалкевіч, Ігар Добры і Лана Медзіч. Званьне лаўрэата фэстывалю атрымаў А. Атаманаў, дыплямантамі сталі В. Шалкевіч — за працяг нацыянальных традыцыяў, і І. Добры — за яскравы нацыянальны калярыт.

Апеку над аўтарскай песьняй, якой ня лёгка прабівацца ў сьвет, узяло на сябе Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. Папулярнасьць бардаў, піша Сьвятлана Азарэвіч у газэце «Зьвязда» (17.XII), «дапамагае разьвіцьцю, усталяваньню беларускай паэзіі».

Беларуская аўтарская песьня карыстаецца папулярнасьцяй сярод замежных беларусаў, якія ахвоча набываюць касэткі з запісамі бардаў. Гэты попыт, аднак, ня задавальняецца. Апэратыўны прадпрымальнік тут мог-бы і замежным беларусам памагчы ў набываньні песьняў і сабе даляра зарабіць.

# КАНАДЗКІ ФОНД

*(Заканчэньне зь 5-й ст.)*

арганізуе візыты ў Канаду беларускіх лекароў на двухмесячны пэрыяд, каб азнаёміць іх з нашай мэдыцынай. Усё гэта патрабуе вялізарных намаганьняў.

Тут трэба выказаць прызнаньне нашым канадзкім сябрам, якія дапамагаюць нам зь вялікім энтузіязмам.

Я перакананы, што некалі Рэспубліка Беларусь, калі станецца запраўды незалежнай, дасьць ім ганаровае грамадзянства. Цяперашні ўрад Беларусі, на жаль, не зацікаўлены гэтай праблемай. Довадам гэтага — поўнае ігнараваньне беларускай прэсай дасланых намі матар'ялаў пра нашу дзейнасьць.

Вялікая падзяка належыцца нашай старшыні Івонцы Сурвіла, ейнаму мужу ды ўсім сябрам управы фонду. Нехта можа папытацца: ці варта ўсё гэта, ці аплачваецца высілак? Я пераконаны, што так.

Беларускія дзеці ня толькі адпачываюць у нас у добрых абставінах, але таксама бачаць, як можна жыць ува ўмовах вольнага прадпрмества; пазнаюць, што людзі, якія ім зусім чужыя, маюць добрае сэрца. Зь дзяцей гэтых выйдуць будучыя лідары, іхны побыт тут – вялікая інвэстыцыя ў іхную адукацыю.

Другі важны мамэнт — гэта тое, што нашая дзейнасьць выклікала вялікае зацікаўленьне канадзкае прэсы й тэлебачаньня. Няма таго тыдня, каб у прэсе ня згадвалася Беларусь у сувязі з дапамаговай акцыяй нашага фонду.

Тут я хацеў-бы даць адказ нашым суродзічам у Аўстраліі, якія былі расчараваныя тым, што прыбылыя да іх дзеці, ня гутарылі па-беларуску ды часам выказвалі варожасьць да беларускай мовы. Гэта ня іх віна. Яны — ахвяры даўгога паняволеньня. Дайце ім час і спрыяльныя абставіны. Апошні раз ужо больш дзяцей гаварыла па-беларуску, як папярэднімі гадамі. Што вымагаць ад дзяцей, калі прэм'ер беларускага ўраду адносіцца з пагардай да роднае мовы? Сёньняшні ўрад — гэта наследнікі савецкае акупацыйнае ўлады, якія мелі за заданьне вынішчаць усё беларускае. Толькі тады, калі ў Беларусі будзе свой урад, абраны народам і адказны перад ім, мы зможам ацаніць запраўднае палажэньне там.

Падзяка ад беларускага народу прыдзе сваім часам. Ды зрэшты, мы не праводзім свае дзейнасьці дзеля падзякі, а робім гэта, бо верым, што наша праца прынясе карысьць у будучыні для нашага народу.

**Б. Рагуля**

## РОСТ ПАПУЛЯРНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

Паводле кніжнай палаты Беларусі (як падала «Звязда» 21.I.94), за 1993 год было выпушчана ў рэспубліцы дзяржаўнымі і камэрцыйнымі выдавецтвамі 2926 назоваў кніг агульным тыражом 98,3 мільёна экзэмпляраў. З гэтай колькасьці выйшла на беларускай мове 786 назоваў тыражом 18,4 мільёна экзэмпляраў.

У параўнаньні з 1992 годам беларускамоўных кніг летась выйшла на 43 працэнты больш па назовах і на 53 працэнты больш па тыражы. Тым ня менш, беларускамоўная кніга становіць усё яшчэ толькі каля 20-25 працэнтаў ад расейскамоўнай і па назовах, і па тыражы.

***Падпішэцеся на «Беларуса» для знаёмага на Бацькаўшчыне!***

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ДАЧЫНЕНЬНІ Ў ВЯЛЕЙШЧЫНЕ (1941-1944 гг.)

*(Працяг. Пачатак у №407)*

Віленскае польскае падпольле зусім правільна называла Ашмяну (Ашмянскі павет) «польскай рэспублікай». Ашмяна была перш за ўсё харчовай базай гэтага падпольля ды апошнім ратункам для ўсіх тых палякоў, якім гарэў грунт пад нагамі ў Вільні. Асабліва хаваліся туды пракамуністычныя польскія элементы, якія стараліся, часта з посьпехам, атрымаць працу ў школьніцтве, паліцыі, адміністрацыі. Часта наведваў Ашмяну паляк, праф. С. Эрэнкройц, сын якога быў камандантам паліцыі ў Жупранах. Эміcарам польскага падпольля ў Ашмяне быў др. М. Старкевіч, паручнік рэзэрвы, мой былы калега з польскае віленскае гімназіі. Адзін-адзіны мой візыт у яго, даволі кароткі, спрычыніўся да таго, што Старкевіч зараз-жа зьмыўся з Ашмяны.

Польскі тэрор у Ашмяне й ваколіцах пачаўся амаль з днём прыходу туды немцаў. Я ўжо раней успамінаў прозьвішчы зьнішчаных Міхася Гіляса і Войцеха Шутовіча. Але гэта ня ўсё. Малая ашмянская турма была біткам набіта. Сядзела там пераважна вясковая інтэлігенцыя, было некалькі настаўнікаў, якім, між іншага, ставілася ў віну, што за савецкімі часамі яны належалі да ... супрацьпаветранай абароны. Усе арыштаваныя, за выняткам двух летувісаў зь Дзевінішак, былі беларусы.

Першы тыдзень мае працы ад раньня да вечара пайшоў на допыты арыштаваных. Усіх іх амаль давялося звольніць, толькі трох-чатырох пакарць тыднёвым арыштам.

Маім заступнікам стаўся пляменьнік Юстына Мурашкі, добры беларус, але слабога характару. Пакіншуўшы яго ў Ашмяне, я аб'ехаў амаль усе аддзелы паліцыі, занатоўваючы пэрсанальны склад паліцыі, нацыянальнасьць, асьвету. Давялося таксама візытаваць школы, паколькі школьны інспэктар — паляк — не праяўляў вялікай цікавасьці да свае працы.

Школы былі пераважна польскія зь беларускай мовай як прадметам. Часта прыходзілася дыскутаваць з настаўнікамі, асабліва з тымі, якія ведалі беларускую мову, каб навука ў школах вялася ў беларускай мове.

Паліцыйная й школьная візытацыя павету была вельмі небясьпечнай ужо зь ведамых прычынаў. Што я выйшаў жывы, найбольш заўдзячаю Міхалу Курчэўскаму, які выконваў ролю падручнага (ад'ютанта), абаронцы, паліцыянта, сакратара.

Я сьпяшаўся зрабіць у павеце як мага больш, бо акруговы камісар папярэдзіў мяне, што неўзабаве буду камандыраваны ў Вялейку. Гэта хутка й сталася. Пасьля 4-5-х тыдняў мне было загадана перадаць усё заступніку і ехаць у Вялейку, што я й зрабіў. Акруговы камісар падпісаў мне прызначэньне на ягонага надзвычайнага ўпаўнаважанага. Мне быў дадзены асобны пакой, зь якога я даўжэйшы час амаль не карыстаў, праводзячы вельмі шмат часу ў разьездах па павеце.

У самой Вялейцы начальнікам павету быў мясцовы паляк, адвакат Валькевіч, а ягоным заступнікам — беларус Сапешка. Валькевіч ня быў шавіністам і ва ўправе павету працавала шмат беларусаў. Неўзабаве Валькевіч выехаў (здаецца, у Варшаву) і абавязкі начальніка пераняў тымчасам Сапешка. Школьніцтва ў павеце было выключна беларускае.

Акруговым школьным інспэктарам быў часова Язэп Пратасэвіч, чалавек да гэтай працы няпрыдатны. Яго пасьля падмяніў Іван Сыраквас, які перад першай вайной скончыў настаўніцкую сэмінарыю.

Акруговым лекарам быў др. Катовіч, беларус; акруговым вэтэрынарам — данскі казак, белагвардзейскі афіцэр др. Яшчынскі. Ён ня ведаў беларускай мовы, жыў перад вайной дзесьці ў Польшчы, страшэнна ненавідзеў бальшавікоў. Мае адносіны з абодвума лекарамі былі вельмі добрыя.

Начальнікам паліцыі Вялейскага павету быў Станіслаў Пасіцель, пазнанчык, які на Беларусі да вайны быў дзесьці недалёка ад Вялейкі камандантам польскай паліцыі. У першую сусьветную вайну ён быў у нямецкай арміі, меў нямецкія адзнакі й мэдалі. Калі прыйшлі ў Вялейку немцы, дак ён зарганізаваў тут паліцыю. На паліцыйным будынку павесіў шыльду: «Постэрунэк Польскей Паліц'і Паньствовэй» (аддзел польскай дзяржаўнай паліцыі), і толькі пасьля даўжэйшага часу акруговы камісар загадаў шыльду зьняць. Затое я, крыху пазьней і памалу, пачаў яго адсоўваць. Мне ўдалося завэрбаваць у паліцыю маладога мясцовага беларуса, якога я пазьней назначыў заступнікам Пасіцеля. Даючы мне прызначэньне на ўпаўнаважанага, акруговы камісар засьцярогся, што я ня маю права звальняць з паліцыі ці з адміністрацыі фальксдойчаў бяз згоды камісара. Як правіла, ён такой згоды не даваў.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Аляксандар Калодка**

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ

**Шукаю брата майго дзеда Ігната – Юрку Цыбульскага**, які яшчэ да вайны выехаў у ЗША зь вёскі Гарошкаў Рэчыцкага раёну Гомельскай вобласьці. Дзявоцкае прозьвішча ягонае жонкі Натальлі — Літошка. У іх былі дзеці: Пётр, Аляксандр, Рыгор, Мікола, Марыя, Алена. Апошні канвэрт ад Ю. Цыбульскага датаваны 1975 годам. На ім адрас бабы Натальлі (па другім мужу – Казелька): Mrs. Sam Kozylka, 1 New York Ave., Fond du Lac, Wis. 54935. Мой ліст, пасланы на гэты адрас, вярнуўся. Буду вельмі ўдзячны за ўсякую дапамогу знайсьці маіх сваякоў у ЗША. Прашу пісаць на адрас: Цыбульскаму М.І., 246042 Гомель, вул. Ільіча, 85-42, BELARUS.

**Шукаю майго дзеда (дзядзьку маёй мамы) Івана Бунчука**, які жыў (жыве) у Англіі ў гор. Нотынгэме пад наступнымі адрасамі: Mr. J. Bunchuk, 33 Ella Rd., West Roidgford, Nottingham, NG25GX, а таксама 16 Sidney Rd., Beeston, Nottingham. Прашу адгукнуцца на адрас: Дулуб Тамара, 231447 Гродзенская вобл., Карэліцкі р-н, в. Жухавічы, 2-2. BELARUS.

# ІЗНОЎ З ДАПАМОГАЙ

*(Працяг з 4-й ст.)*

Наступнага дня давялося пабыць у Культурна-Адукацыйным Цэнтры для Сьляпых. Старыя калекі былі моцна ўдзячныя, што не забыліся пра іх суродзічы з-за акіяну, якіх яны ніколі ня здолеюць пабачыць. Некаторыя адыходзілі са сьлязьмі на нявідомых вачох. Тут нас прымалі дырэктар цэнтру, народны дэпутат сп. Міхаіл Драздоў зь ягонымі супрацоўнікамі.

Аглядзелі мы гістарычны музэй Таварыства Сьляпых і выставу іхнай вытворчасьці, дзякуючы якой у вялікай меры ўтрымоўваецца цэнтар.

Другая наша група ў тым самым часе павезла мэдыкамэнты ў 9-ю бальніцу.

Спаткаліся мы ўсе разам у наступнай 4-й бальніцы для дарослых, дзе галоўным лекарам працуе др. Уладзімер Гарбатаў. Далей едзем у 2-ю дзіцячую бальніцу, там нас сустракае заступніца галоўнага лекара др. Жана Мурог. Апошнім аб'ектам гэтага дня была 6-я бальніца для дарослых, у якой становішча галоўнага лекара займае др. Вячаслаў Асаевіч, а заступніка – др. Вольга Горбач. Падаю прозьвішчы, бо ўсе лекары нас шчыра прымалі і моцна дзякавалі ахвярвальнікам каштоўнай дапамогі, безь якое хворыя дзеці былі-б асуджаныя на немінучую сьмерць.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Мікола Ганько**

## АЛЕНА † ТРЫСМАКОВА

Памерла 11 сьнежня 1993 г., пражыўшы 80 гадоў. Была добрая парафіянка ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў гор. Адэляйдзе ў Аўстраліі. Пахаваная 15 сьнежня 1993 г. Управа царквы Сьв. Пятра і Паўла выказвае глыбокія спачуваньні дачцы Лёлі, мужу Мэксу і ўнучкам. Няхай будзе табе, Алена, аўстралійская зямля лёгкім пухам.

**Парафіяльная Рада**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| А. Лук'янчык | ам. д. | 190 |
| М. і В. Махнач | | 150 |
| К. Вортс | | 100 |
| М. Шыкалюк | | 100 |
| К. і С. Вініцкія | | 100 |
| В. і А. Русак | | 100 |
| Б. Паўк (заміж кветак на магілу с.п. Рыгора Паўка) | | 100 |
| Э. Рыжы | | 90 |
| Ф. Верамейка | | 69 |
| І. Ільчук | | 50 |
| В. М. | | 50 |
| С. Буткевіч | | 50 |
| М. Баяроўскі | | 50 |
| М. Каленік | | 50 |
| П. Пікулік | | 50 |
| К. і Я. Шэлест-Сэдар | | 50 |
| Ф. Говард | | 50 |
| В. Стук | | 50 |
| Г. Сенькевіч | | 50 |
| Л. Багун | | 50 |
| Н. Мароз | | 40 |
| У. Буртан | | 40 |
| В. Нафрановіч | | 35 |
| Я. Люгэр | | 35 |
| М. Кулагін | | 30 |
| Н. Кіт | | 25 |
| Я. Крэсла | | 25 |
| В. Казлоўскі | | 25 |
| К. Акула | | 20 |
| В. Рамук | | 20 |
| М. Бурнос | | 20 |
| В. Мазура | | 20 |
| М. Наўмовіч | | 20 |
| Я. Юхнавец | | 10 |
| Х. Кажаневіч | анг. ф. | 5 |
| | Усяго | 1934 |
| | і анг.ф. | 5 |

*Ад наша прадстаўніка ў Сыднэі ў Аўстраліі, сп. М. Лужынскага:*

| | | |
|---|---|---|
| М. Лужынскі | аўстр. д. | 117 |
| С. Нарушэвіч | | 100 |
| М. Мілеўскі | | 100 |
| Л. Парэцкі | | 90 |
| С. Яраховіч | | 60 |
| А. Бакуновіч | | 60 |
| М. Бакуновіч | | 60 |
| Л. Бакуновіч | | 60 |
| М. Антух | | 60 |
| В. Ліпскі | | 60 |
| У. Русак | | 60 |
| А. Хаванская | | 60 |
| В. Стукач | | 60 |
| К. Сіткоўскі | | 60 |
| У. Радзевіч | | 60 |
| | Усяго | 950 |
| | у ам. д. | 630 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Кліўлендзе сп. Андрэя Стрэчанага падпіска й калядныя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Белямук М. | 25 |
| Васілеўскі П. | 20 |
| Галоўка М. | 50 |
| Дунец Ул. | 20 |
| Дымон П. | 25 |
| Калоша К. | 220 |
| Каваленка Я. | 40 |
| Кананчук Т. | 50 |
| Карніловіч Слава | 30 |
| Каханоўская Іна | 20 |
| Лукашэвіч Оля | 20 |
| Лук'янчык А. | 60 |
| Маталыцкі К. | 40 |
| Махахей С. | 30 |
| Патапенка М. | 20 |
| Раковіч Я. | 25 |
| Сацэвіч А. | 30 |
| Сяргеевіч В. | 20 |
| Страпко М. а. | 25 |
| Стрэчын А. | 50 |
| Стрэчын О. | 50 |
| Стрэчын М. | 50 |
| Стрэчын Н. | 50 |
| Стрэчын В. | 50 |
| Ханенка Я. | 50 |
| Ягаўдзік Ю. | 30 |
| Яраховіч А. | 50 |
| Яцэвіч В. | 30 |
| З продажу | 30 |
| Усяго | 1,370 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Заходняй Аўстраліі сп-ні Марыі Мароз:*

| | | |
|---|---|---|
| М. Мігал | аўстр. д. | 100 |
| П. Дарэўскі | | 100 |
| М. Мароз | | 50 |
| М. Раецкі | | 40 |
| М. Раецкі, мал. | | 10 |
| А. Ніжнік | | 50 |
| Э. Дамброўскі | | 30 |
| А. Бразоўскі | | 50 |
| А. С. Мароз | | 20 |
| Ул. і Э. Ласкевіч | | 25 |
| Бел. Аб'едн. ў З.А. | | 25 |
| | Усяго | 500 |
| | у ам. д. | 330,25 |

## ПАПРАЎКІ

**На беларускія радыяпраграмы ў Пэрце.**

Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі ахвяравала ня 100 дал., як было пададзена, а 600 даляраў.

**На менскую школу №131** Я. Запруднік ахвяраваў 65 ангельскіх фунтаў, А. Тэлеш – 70 анг. ф., Х. Кажаневіч – 10 анг. ф. (у «Беларусе» №407 былі пададзеныя памылковыя лікі). Выбачаемся.